# Голас Радзімы

№ 40 (2078)
6 кастрычніка 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



**Восень прыйшла і ў Заслаўскі гісторыка-археалагічны запаведнік. Пажоўкла трава на высокім узгорку, дзе ўзвышаецца будынак былой Спаса-Праабражэнскай царквы, рознакаляровае яркае лісце падае ў глыбокі роў, што акружае гэты помнік архітэктуры XVI—XVII стагоддзяў. У 1978 годзе ў ім быў адкрыты Заслаўскі музей рамёстваў і народных промыслаў. Сёння тут экспануецца каля тысячы твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і народных рамёстваў, выявы гербаў беларускіх гарадоў, прадметы хатняга ўжытку, узоры народнага адзення, калекцыя ганчарных вырабаў, цацкі і інш.**
**Каля будынка музея наладжваюцца народныя святы — Купалле, Каляды, у арганізацыі і правядзенні якіх прымаюць удзел і супрацоўнікі музея.**

**Фота М. ЖЫЛІНСКАГА.**

СУСТРЭЧА З ЖУРНАЛІСТАМІ

## БРАЦТВА ПА ЗБРОІ

Знамянальнай даце — 45-й гадавіне народнага Войска Польскага была прысвечана прэс-канферэнцыя, якая адбылася ў генконсульстве ПНР у Мінску. Выступаючы на ёй, генеральны консул М. Абядзіньскі — удзельнік гістарычнага бою каля сяла Леніна 12 кастрычніка 1943 года — падкрэсліў вялікае значэнне для польска-савецкіх адносін гэтага баявога хрышчэння сфарміраванай на тэрыторыі СССР першай пяхотнай дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі. Ён адзначыў, што сейм Польшчы адзінадушна прыняў рашэнне аб заснаванні ордэна «За бітву пад Леніна», якім будуць узнагароджаны яе ўдзельнікі, у тым ліку і грамадзяне іншых дзяржаў. Генеральны консул звярнуўся да ўсіх, хто змагаўся пад Леніна і жыве ў Беларусі, з просьбай даць знаць аб сабе ў камітэты ветэранаў вайны, з тым каб высокая ўзнагарода брацкай краіны знайшла сваіх герояў.

На прэс-канферэнцыі адбылося ўручэнне беларускаму кампазітару Ігару Лучанку знака міністэрства культуры і мастацтва ПНР «Заслужаны для польскай культуры», якога ён удастоены за ўклад у арганізацыю першага Усесаюзнага фестывалю польскай песні ў Віцебску.

ПРАДСТАЎЛЯЕ ФРГ



«Сучаснае медыцынскае абсталяванне» — так называецца выстаўка фірмы Дрэгерверк (ФРГ), якая адкрылася ў Мінску. Апаратура фірмы выкарыстоўваецца ў аснашчэнні многіх медыцынскіх устаноў нашай рэспублікі. У цяперашняй экспазіцыі прадстаўлена тэхніка для педыятрыі.
НА ЗДЫМКУ: прадстаўнік фірмы Дрэгерверк Р. ЭЛЕРС знаёміць медработнікаў горада з экспанатамі выстаўкі.

ВІЗІТЫ

## ЗНАХОДЖАННЕ КАМПУЧЫЙСКАЙ ДЭЛЕГАЦЫІ

У Мінску знаходзілася дэлегацыя Кампучыйскага камітэта салідарнасці краін Азіі і Афрыкі на чале з яго старшынёй, членам ЦК Народна-рэвалюцыйнай партыі Кампучыі, загадчыкам міжнароднага аддзела ЦК НРПК Юх Сонам.

У ходзе візіту адбыліся сустрэчы членаў дэлегацыі з сакратаром ЦК КПБ В. Пячэннікавым, сакратаром Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Л. Сыраегінай, актывістамі Беларускага камітэта абароны міру.

Госці з Кампучыі азнаёміліся з экспазіцыямі Дома-музея I з'езда РСДРП, Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. У праграме знаходжання дэлегацыі было наведанне Мінскага камвольнага камбіната, мемарыяльнага комплексу «Хатынь».

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## ПАБРАЦІМ БРЭСТА

Ім стаў невялікі бельгійскі горад Сінт-Ніклас, адкуль вярнулася дэлегацыя гарвыканкома. У ходзе візіту было дасягнута пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне культуры і эканомікі, у развіцці дружалюбных сувязей. Гарады-пабрацімы плануюць абменьвацца вопытам работы прадпрыемстваў харчовай і лёгкай прамысловасці, вырашэння праблем гарадской гаспадаркі.

РАЗВІЦЦЁ ВЁСКІ

## ЁСЦЬ ШТО ПАКАЗАЦЬ

Пасля наведання ВДНГ БССР працаўнікі калгаса «Ленінскі шлях» Слуцкага раёна вырашылі запрасіць арганізатараў выставак да сябе ў госці. Запрашэнне было прынята.

Нядаўна група работнікаў ВДНГ пабывала ў калгасе «Ленінскі шлях». Сёння тут сабрана па 50 цэнтнераў збожжа з гектара. Некалькі гадоў запар надоі на карову складаюць звыш 4 000 кілаграмаў малака.

У гаспадарцы паспяхова вырашаюцца сацыяльна-бытавыя пытанні. Пабудаваны 109 кватэр і інтэрнат для маласямейных, на фермах ёсць душавыя і медпункт, пакоі псіхалагічнай разгрузкі. Пракладваюцца дарогі, узводзіцца невялікі мясакамбінат, дзейнічае цэх па перапрацоўцы фруктаў. Да першага лістапада адкрые дзверы новы, прасторны Палац культуры.

Не выпадкова англійскія фермеры Пітэр Куксан, Стывен Брытан і Джэймс Мангомеры, якія нядаўна пабывалі тут, шчыра гаварылі, што іх прыемна здзівілі і высокі ўзровень вядзення гаспадаркі, і добрыя ўмовы жыцця і працы калгаснікаў.

У КОНСУЛЬСТВЕ ГДР

## УРУЧАНЫ ЗНАКІ

Уручэнне ганаровых знакаў Таварыства германа-савецкай дружбы актывістам Беларускага аддзялення Савецкага таварыства дружбы з ГДР з нагоды 39-й гадавіны ўтварэння Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі адбылося ў Генеральным консульстве ГДР у Мінску. Узнагароды прысуджаны за плённую дзейнасць па ўмацаванню і развіццю дружбы паміж народамі Савецкага Саюза і ГДР.

Генеральны консул ГДР у Мінску В. Янда ўручыў знакі і цёпла павіншаваў узнагароджаных.

ПАРТНЁРСКІ АБМЕН

## З БАЛГАРСКАЙ МАРКАЙ

Асабліва модны абутак, трыкатажныя вырабы і вырабы з футра балгарскай вытворчасці прапаноўвае магілёўчанам Кастрычніцкі універмаг горада. Знізіць дэфіцыт на многія тавары дапамагаюць прамыя сувязі, устаноўленыя з Габраўскім гандлёвым аб'яднаннем. Па дагавору паміж пабрацімамі з Магілёва ў Балгарыю адпраўлены халадзільнікі, посуд, бялізна, якія хутка знайшлі свайго пакупніка. Работнікі універмага, у сваю чаргу, падабралі тавар, які карыстаецца попытам у Беларусі.

НА ЭКСПАРТ

## ЛЯМПАЧКІ ДЛЯ КУВЕЙТА

Буйная партыя электрычных лямпачак — чвэрць мільёна — хутка адправіцца з Брэста да адрасата ў далёкі Кувейт. Другі аптовы пакупнік — Сенегал атрымае 100 тысяч лямпачак крыху пазней.

Сёння прадукцыя Брэсцкага электралямпавага завода экспартуецца ва ўсе сацыялістычныя краіны, а таксама ў Італію, ФРГ, Японію... З'яўленне сярод імпарцёраў новых краін — яркае сведчанне высокай якасці прадукцыі прадпрыемства, яе адпаведнасці сусветным стандартам.

ПАЗБЕГНУЦЬ СТАНДАРТУ

## АРХІТЭКТАР — ПРАФЕСІЯ СЕЛЬСКАЯ

«Архітэктар» — такая таблічка з'явілася на дзвярах аднаго з кабінетаў праўлення калгаса «Шлях Леніна» Круглянскага раёна. Гэта першы за некалькі гадоў выпадак, калі ў гаспадарцы не скарацілі, а павялічылі штат спецыялістаў. Змяніць традыцы прымусіла само жыццё.

Калгас-мільянер не шкадуе сродкаў на абнаўленне вёсак, будаўніцтва дарог і ферм. Толькі за апошнія гады на цэнтральнай сядзібе ў Камсені выраслі Дом культуры, школа, гандлёвы цэнтр. У гэтыя дні навасёлы абжываюць дванаццацікватэрны дом, праз месяц-другі ветліва расчыняць дзверы магазіны ў вёсках Кляпінічы і Рублёўск, дзіцячы сад. Усё, здаецца, добра, аднак, лічыць старшыня В. Шафранскі, разам з сучаснымі дамамі прыйшоў у вёску і гарадскі стандарт, пачала яна страчваць сваё непаўторнае аблічча.

Калгасны архітэктар дапаможа і тым, хто задумае пабудаваць сабе жыллё самастойна.

ТАВАРЫ ДЛЯ НАРОДА



Хутка ў магазіны рэспублікі паступіць новы бытавы халадзільнік «Мінск-128». Гэты выраб вядомага ў краіне аб'яднання «Атлант», што ў сталіцы Беларусі, — на ўзроўні сусветных узораў.
НА ЗДЫМКУ: механік завода халадзільнікаў Ніна ПАЛЯКОВА дэманструе «Мінск-128».

УШАНАВАННЕ ГЕРОЯ

## УЗДОЎЖ ГРАНІЦЫ

Уздоўж Дзяржаўнай граніцы СССР пракладзі маршрут велапрабегу Гродна — Брэст яго ўдзельнікі, ветэраны Вялікай Айчыннай вайны з Масквы. Іх мэта — наведаць месцы, звязаныя са службай легендарнага пагранічніка, Героя Савецкага Саюза Мікіты Карацупы.

Удзельнікі велапрабегу, які фінішуе ў крэпасці-героі Брэсце, пабывалі таксама на іншых заставах Заходняй пагранічнай акругі.

АЗДАРАЎЛЕНЧЫ ЦЭНТР — ДЗЕЦЯМ



На грошы, заробленыя працоўнымі Баранавіч на камуністычных суботніках, у горадзе ўзведзены дзіцячы аздараўленчы цэнтр. У яго ўваходзяць паліклініка на 480 наведванняў у змену, водалячэбны комплекс, два басейны — для немаўлят і дзяцей старэйшага ўзросту, аддзяленне аднаўленчага лячэння, працэдурныя кабінеты, зала лячэбнай фізкультуры. Працуе ў цэнтры 140 спецыялістаў, у тым ліку сорак урачоў.
НА ЗДЫМКУ: у кабінеце водных працэдур.

НОВЫЯ ВЫРАБЫ

## ПЮРЭ Ў ПАКЕЦЕ

Нават самыя дробныя, велічынёй з гарошыну, клубні пойдуць у перапрацоўку на Сольскім агароднінасушыльным заводзе, што ў Смаргонскім раёне. Сучасныя лініі ператвораць іх у каштоўны паўфабрыкат — сухое бульбянае пюрэ. З яго робяць хрусткія чыпсы, якія вельмі любяць дзеці і дарослыя. Новы прадукт з нецярпеннем чакаюць хлебапёкі — з цеста з невялікім дабаўленнем бульбяной крупкі яны выпякаюць пахучыя, смачныя боханы, што доўга не чарсцвеюць. Некалькі пачак сухога канцэнтрату забяспечаць гаспадыню гадавым запасам «другога хлеба», дапамогуць зэканоміць на прыгатаванні абеду нямала часу.

Штогод завод у Солах будзе адпраўляць спажыўцам па 1 450 тон сухога бульбянога пюрэ. У цэхах прадпрыемства працягваецца мантаж другой лініі такой жа магутнасці.

У РАМКАХ ДЗЁН СССР

## ТРОНХЕЙМ ЗНАЁМІЦЦА З БЕЛАРУССЮ

Выстаўкай твораў графікі, народна-прыкладнога мастацтва, кнігі і дзіцячага малюнка ў нарвежскім горадзе Тронхейме адкрыліся традыцыйныя Дні Савецкага Саюза з удзелам Беларускай ССР. У рамках Дзён, арганізаваных Таварыствам дружбы «Нарвегія — Савецкі Саюз» сумесна з муніцыпальнымі органамі і прадстаўніцтвамі савецкіх знешнегандлёвых аб'яднанняў,— выступленні мастацкіх калектываў, знаёмства нарвежцаў з культурнымі, сацыяльнымі і эканамічнымі дасягненнямі Савецкай Беларусі.

Мэр Тронхейма П. Берге, які выступіў на ўрачыстай цырымоніі адкрыцця, падкрэсліў важнае значэнне культурных кантактаў для ўмацавання дружбы і ўзаемаразумення паміж нашымі народамі. Аб вялікай цікавасці нарвежцаў да жыцця, быту і працы савецкага народа гаварыла старшыня Таварыства «Нарвегія — Савецкі Саюз» О. Андэрсен. З цікавасцю сустрэлі прысутныя выступленне кіраўніка дэлегацыі Савецкай Беларусі, старшыні прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі А. Ваніцкага.

Дэлегацыя Беларусі сустрэнецца таксама з грамадскасцю многіх гарадоў краіны, наведае прамысловыя прадпрыемствы, сельскагаспадарчыя кааператывы. Мастацкія калектывы выступяць з канцэртамі ў 10 гарадах Нарвегіі.

*ПРАБЛЕМЫ БУЛЬБЯНОГА ПОЛЯ*

# «ЛОШЫЦКІ», «АГЕНЬЧЫК»: ІХ БУДУЧЫНЯ

Бульба—традыцыйна найважнейшая сельскагаспадарчая культура Беларусі. Рэспубліка, якая мае ўсяго тры працэнты ворнай зямлі СССР, вырошчвае 25 працэнтаў агульнасаюзнага і 5 працэнтаў сусветнага аб'ёму бульбяных клубняў. Па сярэднестатыстычнай норме Беларусь магла б забяспечыць бульбай краіну з насельніцтвам 180 мільёнаў чалавек. Калі сярэдняя ўраджайнасць сусветнай вытворчасці бульбы вагаецца паміж 135 і 150 цэнтнерамі з гектара, то ў БССР яна наблізілася да 250.

Аднак апошнім часам вытворчасць бульбы ў Беларусі сутыкаецца з цэлым шэрагам складаных праблем. Зрэшты, падобныя праблемы характэрныя і для іншых «бульбяных» рэгіёнаў краіны — Расіі і Украіны. Усяго ў СССР пад гэтай культурай занята амаль 7 мільёнаў гектараў, з якіх здымаецца прыкладна 80 мільёнаў тон (ці 30 працэнтаў усёй сусветнай вытворчасці) бульбяных клубняў.

### ПРАГРАМА

Калі да нядаўняга часу бульбаводчы комплекс СССР адносіўся да галін, што дынамічна развіваюцца, і трывала трымаў першае месца ў свеце па валавому збору бульбяных клубняў, то ў апошнія гады вытворчасць бульбы пачала істотна адставаць ад пастаянна растучых інвестыцый на яе развіццё. Знізілася якасць клубняў—пагоршыўся смак, кансістэнцыя мякаці і асабліва пах сталовай бульбы.

У 1985 годзе ўрад рэспублікі зацвердзіў мэтавую навукова-вытворчую праграму «Бульба». У ёй былі прааналізаваны прычыны зніжэння якасці клубняў: слабая механізацыя, незбалансаванасць мінеральных угнаенняў, уборка пры нізкіх тэмпературах, дрэнна прадуманыя метады захоўвання і дастаўкі прадукцыі да спажыўца (з-за якіх у іншыя гады страты бульбы дасягалі 30 працэнтаў), а таксама намечаны шляхі іх ліквідацыі. Акрамя таго, было прынята рашэнне істотна павысіць практычную аддачу генетычнага патэнцыялу існуючых і новых сартоў бульбы.

### ІНСТЫТУТ

— Перад намі стаіць задача актывізаваць работы, звязаныя з «канструяваннем» сартоў бульбы павышанай ураджайнасці, з высокім утрыманнем крухмалу, з мякацію, якая не цямнее, і прыгодных да механізаванага вырошчвання,—гаворыць Іван Калядка, загадчык аддзела селекцыі Беларускага навукова-даследчага інстытута бульбаводства і плодаагародніцтва.

Гэты інстытут па-свойму унікальны. Ён створаны ў 1956 годзе ў пасёлку Самахвалавічы за дваццаць кіламетраў ад Мінска. Гэта галаўная навуковая ўстанова па насеннявoдству бульбы для заходніх раёнаў СССР. 150 яго навуковых супрацоўнікаў і паўтары тысячы спецыялістаў - бульбаводаў займаюцца стварэннем сартоў, гібрыдаў бульбы, удасканаленнем сістэмы насенняводства і тэхналогіі яе вырошчвання.

Добра вядомыя сарты, створаныя беларускімі селекцыянерамі: «лошыцкі», «агеньчык», «беларускі ранні», «зубраня», «тэмп». Ужо прайшлі дзяржаўныя выпрабаванні і перададзены ў гаспадаркі новыя сарты, такія, як «дабро» і «беларускі», з генетычным патэнцыялам да тысячы цэнтнераў клубняў з гектара. Ураджайнасць абодвух сартоў на доследных палях рэспублікі ўжо даведзена да 800 цэнтнераў. У іх павялічана ўтрыманне крухмалу, сухіх рэчываў, павышана ўстойлівасць да вірусных захворванняў.

Вучоныя інстытута не абмяжоўваюцца селекцыйным пошукам. Яны даюць рэкамендацыі на размяшчэнне бульбяных сартоў у найбольш спрыяльных агракліматычных арэалах, падказваюць перадавыя прыёмы агратэхнікі, удзельнічаюць у распрацоўцы машын для бульбаводства, сховішчаў.

### ЗАХОЎВАННЕ І ПЕРАПРАЦОЎКА

У праграме «Бульба» шмат увагі надаецца механізацыі працэсаў «руху» бульбы ад поля да спажыўца. Яшчэ нядаўна ўзровень механізацыі гэтых аперацый не перавышаў 50 працэнтаў.

На жаль, бульбаўборачныя машыны пакуль вельмі далёкія ад дасканаласці і не дазваляюць дабівацца такой ступені ачысткі клубняў, каб іх можна было адразу ж закладваць на захоўванне. Спецыялісты лічаць, што эфектыўнасць уборачнага працэсу можна павысіць за кошт «пераносу» і дадатковай сепарацыі бульбяных клубняў ад глебы і іншых прымесяў у стацыянарныя ўмовы — стацыянарныя бульбасартавальныя пункты. Кошт апрацоўкі клубняў у іх удвая ніжэйшы, а якасць вышэйшая, чым на палях. Такія пункты, здольныя апрацаваць 50 тон бульбы ў гадзіну, дзейнічаюць з радыусам дастаўкі бульбы з поля да 25 кіламетраў.

Штогод на зімняе захоўванне ў краіне закладваюцца мільёны тон насеннай і харчовай бульбы. Аднак не ўся яна даходзіць да спажыўца з-за дрэннага стану бульбасховішчаў. У пасёлках для захоўвання харчовай бульбы закладваюцца традыцыйныя бурты, якія вентылююцца (ёмістасцю 300 і 600 тон). Яны будуюцца за некалькі гадзін з брыкетаў прасаванай саломы і закрываюцца поліэтыленавай плёнкай. Але будучыня, як вызначана ў праграме, за сховішчамі-комплексамі ёмістасцю не менш чым 10 тысяч тон, аснашчанымі тыпавымі фасовачнымі, ачышчальнымі і перапрацоўчымі лініямі.

Праблема захоўвання клубняў на працяглы тэрмін асабліва актуальная, паколькі традыцыйна паўфабрыкаты з бульбы не вельмі папулярныя сярод насельніцтва. У многім такая сітуацыя тлумачыцца не толькі традыцыямі, але і невялікім асартыментам, дрэннай рэкламай і недастатковымі распрацоўкамі ў галіне стварэння новых відаў паўфабрыкатаў.

Перад бульбаводамі рэспублікі стаіць нямала складаных задач, вырашыць якія будзе не зусім проста. Аднак яны спадзяюцца, што рэалізацыя навукова-вытворчай праграмы «Бульба» дазволіць вярнуць Беларусі славу «бульбяной рэспублікі».

Рыгор КОЛАБАЎ.





**Старадаўняя вёска Слабада—адна з найпрыгажэйшых у Мазырскім раёне. Чыстыя, дагледжаныя вуліцы, у большасці заасфальтаваныя, вялікі гандлёвы цэнтр, прыгожыя крытыя калодзежы, роўныя пафарбаваныя платы, акуратныя шыльдачкі з назвамі вуліц—усё гэта радуе вока. А калі што-небудзь не так, жыхары Слабады і суседніх вёсак ідуць у свой Слабадскі сельсавет. Сем год узначальвае яго Анатоль Краўчук, які да гэтага працаваў тут жа намеснікам старшыні калгаса. Так што даўно і добра ведаюць яго аднавяскоўцы, давяраюць аўтарытэтнаму прадстаўніку Савецкай улады вырашэнне і грамадскіх, і асабістых праблем: ці то новы дом будаваць трэба, ці то кароў пасвіць няма дзе, некаму дровы нарыхтаваць не па сілах, камусьці дзіця ў дзіцячы сад трэба ўладкаваць. Дарэчы, дзіцячы сад-яслі вёскі Слабада «Алёнка», які прызнаны лепшым на Мазыршчыне, фінансуецца сельскім Саветам і знаходзіцца пад яго пастаяннай апекай. Праблемы месцаў для дзяцей тут ужо шмат год не існуе. І ў гэтым таксама ёсць немалая заслуга сельсавета.**

**НА ЗДЫМКАХ: у цэнтры Слабады размясціліся дзіцячы сад і школа; за дапамогай да старшыні сельскага Савета А. КРАЎЧУКА звяртаецца пенсіянерка Клаўдзія ПУХАЛЬСКАЯ.**

**Фота І. ЮДАША.**

НА ГАСПАДЫНІ ДОМ ТРЫМАЕЦЦА

# *ВЕРА*

Хлапчук наступіў нагой на танюткі лядок, і з-пад яго пырснуў ледзь прыкметны струмень-фантанчык.

— Вы да каго? — вялікія дзіцячыя вочы з непасрэднасцю паглядалі на мяне.

— А ты хто? — пытаннем на пытанне адказала я.

— Пятроў, — як мне здалося, не без гонару паведаміў хлапчук. Ён паімкнуўся было вярнуцца, але, як быццам успомніўшы нешта, подбегам накіраваўся ўздоўж вуліцы.

У гэты ранні час усе члены сям'і Пятровых, акрамя шасцігадовага Віці, былі дома. Ён і сустрэўся мне ў двары каля сучаснага катэджа на новай вуліцы ў Ільі. Катэдж выдзелілі шматдзетнай сям'і Пятровых зусім нядаўна, і зараз яны абжываюць новы дом, ствараюць у ім утульнасць і камфорт.

...Гаспадыня, Вера Пятрова, завіхалася каля пліты. На талеркі клаліся пульхныя аладкі. Сям'я снедала. Спачатку пакінуў месца за сталом дзевяцігадовы Сярожа — спяшаўся ў школу. Потым, глянуўшы на гадзіннік (часу заставалася няшмат), пабег на заняткі ў тэхнікум Мікалай. У пакоі засталіся Вера Станіславаўна і двухгадовая Волечка. Ды на хвілінку затрымаўся гаспадар, Уладзімір Пятроў, рабочы дзень якога пачынаецца пазней, калі вяртаюцца са школьных заняткаў і прыходзяць на трэніроўку яго выхаванцы. Уладзімір Мікалаевіч — кіраўнік дзіцяча-юнацкай школы па коннаму спорту, што працуе ў Ільянскім саўгасе - тэхнікуме, майстар спорту СССР, удзельнік многіх міжнародных спаборніцтваў. Не выпадкова, што і размова наша пачалася з яго работы і агульнага сямейнага захаплення — коннага спорту.

— Вось Валодзя на спаборніцтвах у Польшчы, — Вера паказвае фотаздымкі. — А гэта — абласныя спаборніцтвы. Выступае Тамара Палонская, чэмпіёнка рэспублікі сярод выхаванцаў дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ, наша навучэнка.

Яна так і сказала — «наша», і таму мне здалося натуральным пытанне:

—Вы, Вера, таксама конным спортам займаецеся?

—Ды не, пакуль у нас у сям'і толькі два чалавекі ім не займаюцца — я і Волечка. Коля выканаў нарматыў кандыдата ў майстры спорту СССР, прыз самага юнага ўдзельніка спаборніцтваў заваяваў у вобласці Сярожа, ды і Віця спрабуе ўжо свае сілы. А я працую інструктарам - метадыстам па спорту ў тэхнікуме, а раней на ўсе спаборніцтвы мы выязджалі сям'ёй.

У нашай краіне стала традыцыйным шанаванне жанчыны-працаўніцы, актывісткі ў грамадскім жыцці. А восьцёплыя словы ў адрас матуль, жонак, на жаль, гучаць куды радзей. Але Уладзімір Пятроў можа расказаць, як для яго было важна адчуваць падтрымку жонкі ў час спартыўных спаборніцтваў. Усе тыя гады, што ён быў членам зборнай краіны, Вера знаходзілася побач і ў гасцініцы, і на турбазе — у часовым жыллі спартсмена, магла стварыць дамашнюю утульнасць, сагрэць душэўным цяплом.

Калі ж па ўзросту Уладзімір выбыў са зборнай краіны, сям'я пасялілася тут, на Вілейшчыне, у Ільі, дзе ствaралася дзіцяча-юнацкая спартыўная школа.

— Як зараз жывём? — перапытвае гаспадыня. — Ды ўсё, што трэба, маем. Любую работу самі зрабіць можам і дзяцей да гэтага прывучаем. Калі засяліліся ў новы дом, зімой халаднавата ў ім было. Дык Валодзя сам печку злажыў, хоць да гэтага нічым падобным не займаўся. І будаўніком ніколі не быў, а вунь якую веранду зладзіў.

У яе шчырым захапленні мужам гучыць пяшчота і ласка, цеплыня і спагадлівасць.

Але ў нас кажуць і так: у хаце толькі адзін кут на гаспадары трымаецца, а тры астатнія — на гаспадыні. Хатняя гаспадарка — клопат яе, Верын. Ёсць на падвор'і куры, певень ярка-чырвоны (Віцька выбіраў), парася.

З дзецьмі таксама спраў хапае. Але, калі муж быў у ад'ездзе, Вера паспявала яшчэ наведаць і будоўлю новага памяшкання конна-спартыўнай школы.

А дома ў кніжнай шафе — тамы падпісных выданняў, іншая літаратура, вельмі многа дзіцячай.

—Калі ў раёне якія спаборніцтвы, Валодзя з сынамі — на конях, а мы з Волечкай хутка на матацыкле ездзіць будзем, — цешыцца Вера. — Нядаўна купілі. Валодзя ўсё больш конямі кіруе. Вось і давялося мне вучыцца матацыкл вадзіць.

І я зноў не змагла стрымаць словы захаплення гэтай невысокай, на выгляд нават кволай жанчынай. Але ж не, слабай яе не назавеш. Даволі часта мае сяброўкі, знаёмыя скардзяцца: цяжка, маўляў, і з дамашнімі справамі спраўляцца, і на рабоце быць не апошняй. Вось аб чым я не пачула ад Веры ні слова — аб тым, што цяжка. Наадварот, расказвала яна ўсё больш аб іх, сваіх памочніках.

— Коля ў нас і ў тэхнікуме добра вучыцца, павышаную стыпендыю атрымлівае, і дома, калі трэба,«за маму» застаецца. Дапамагае дзевяцігадовы Сярожка. Ды і Віцька таксама малайчына. Бывае, прывязу яго і Волечку ў дзіцячы сад, а сама на работу спяшаюся. Віця яе і распране, і ў групу завядзе.

Я слухала Верын расказ і разумела, што дапамагае гэтай вялікай сям'і быць шчаслівай. Вера! Вера кожнага ў кожнага.

...Шчыльна адзін да аднаго стаяць у дзіцячым пакоі ложкі. Днём яны ператвараюцца то ў поезд, то ў казачны цырам, то ў салдацкія акопы. Вера не перашкаджае дзіцячым гульням. Яна і сама задаволена тым, што дзецям тут утульна і хораша. Тады і ўвесь дом будзе такім, якім яна яго стварае: добрым і цёплым.

Наталля ВАЛЫНЕЦ.

## ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ

# РОЗДУМ ПАСЛЯ ВЯРТАННЯ

Прыехаў я ў родную вёску на Смаргоншчыну ў чэрвені — пару цвіцення прыроды. Тут жывыя яшчэ матуля, сястра Браніслава. (Мне ўжо 73 гады, яна — на два старэйшая). Сустрэлі надзіва ветліва. З 1967 года сёмы раз ужо наведваю родных і аднавяскоўцаў, а ўсё не перастаю шчыра здзіўляцца і з жалем у сэрцы ўспамінаць бацьку, які дачасна сышоў у магілу ад непасільнай працы на сваёй вузенькай палосцы зямлі. Няхай бы парадаваўся сёння з намі разам і сонцу яснаму, і ладу, і згодзе, у якой жывуць і шчыруюць на калгасных нівах мае землякі, і сталу сялянскаму багатаму. Я ўсё ніяк не магу прызвычаіцца да такой шчодрасці людзей нашых: госць у хаце — усё найлепшае на стале. Смачная капуста з духмяным кменам, каўбасы і шынкі (а іх жа так добра ўмеюць рабіць вясковыя жанкі), чай ці сырадой, ад якога пахне і полем, і нівай, і рукамі матчынымі.

А надвячоркам выйду з кіёчкам на вуліцу, прыпынюся. Задыхаюся. Ці то ад незвычайна чыстага паветра, якое наплывае з лугавіны, густа замешанае на травах і красках роднай зямлі. Ці то ад слова, бясконца роднага, беларускага. А мо ад усяго гэтага разам, што страціў ажно 48 гадоў назад.

Каб пераказаць маё жыццё, не адна газетная старонка спатрэбілася б. Таму я раскажу аб самым для мяне важным, што і сёння прымушае так моцна біцца сэрца.

Першы раз мне падала маці пугу і торбачку з небагатым сняданкам — гэты адвечны тагачасны пашпарт нялёгкай сялянскай долі, у восем хлапечых гадоў. Тады, калі і сны дзіцячыя на досвітку былі за ўсё саладзейшымі, і сілы ў кволенькіх руках бракавала. Пайшоў я ў поле за жывёлай. Ды каб жа за сваёй! Паколькі кароўкі на бацькавым падворку не мелі, даводзілася студзіць халоднымі росамі босыя ногі за статкам аднаго, потым другога, трэцяга заможнага фальваркоўца. Нямала, як разумею цяпер, было іх на заходнебеларускіх землях. Так ішло маё дзяцінства. Пасталеў—сякеру ў рукі ўзяў. Зноў кладзе нам з бацькам маці кавалак хлеба, бульбіну-другую ў торбу. Вядома—нішчымніца ў хаце. Ды яшчэ тры сястры. Што з іх, дзяўчат, тым часам была за дапамога. І на такіх харчах дзень пры дні зімой бярвенні нарыхтоўваеш. Зноў жа не сабе — вось што горка было. А тут ледзь увабраўся ў сілу — бацькі не стала. Яшчэ гадоў праз некалькі — не паглядзелі, што сям'я са шчаўя на лебяду перабіваецца, у войска польскае забралі. Служы, кажуць, хлопец, абараняй Рэч Паспалітую. Так вось і адслужыў. Потым — трыццаць дзевяты год, а там ужо і вайна.

Адным словам, адарваў мяне лёс ад бацькоўскага парога, закружыў, нібы лісток, і апынуўся я ў 1946 годзе ў Англіі. Там нам, абяздоленым, абяцалі райскае жыццё. Заставацца ці ехаць у Аўстралію, Канаду, Амерыку — выбірай кожны сам. У Саветы, казалі, ні-ні. Там і разруха, і галеча, і рэпрэсіі сталінскія. Ды што казаць, гаварылі многае. Хаця, як разумею сёння, многае з таго і было. Але, як на цяперашні мой розум, не паддаўся б усё роўна на тыя ўгаворы. А тады меркаваў інакш. Што, я думаю, убачу на Радзіме? Да вайны горка жыць было, а тут такая калатнеча над светам прашумела. Ці ёсць хто з родных у жывых — невядома. А што спапялілі фашысты Беларусь, пра гэта чулі не адзін раз.

Словам, застаўся.

Працаваў я звычайным рабочым у адной фірме. А тут і жанчыну сустрэў. Прыглянуліся неяк адно аднаму. Яе лёс таксама не песціў. Муж загінуў яшчэ ў час акупацыі Гітлерам Францыі. Засталася Дорыс з маленькім сынам на руках. Так вось і сустрэліся дзве людскія душы, вайной скалечаныя. Зажылі, праўда, памалу. Сталі працаваць, кватэрку нанялі.

Усё сваё сталае жыццё я ў дзвюх фірмах працаваў. Вырабляюць яны эскалатары для метро і магазінаў, ліфты. Жонка — таксама звычайная работніца. Яна на пенсію пайшла ў 60 гадоў, я — у 65. Абодва разам атрымліваем 79 фунтаў стэрлінгаў пенсіі ў тыдзень. Паглядзець — жыць можна. Яшчэ нядаўна за кватэру плацілі ў тыдзень пяць фунтаў стэрлінгаў. Але «павысілі» нам у сувязі з падатковай рэформай сістэмы пенсію абодвум на тры з лішнім фунты. За кватэру ж сталі плаціць ужо 15 фунтаў. За тую ж самую, бо нікуды не пераязджалі. Бачым, што становіцца жыць усё цяжэй.

Тое, як жывуць сёння людзі ў Савецкай краіне, бачым на экранах тэлевізараў вельмі мала. Нядаўна пра партызанскую барацьбу на Беларусі перадавалі. Паколькі я на Радзіме ўжо сёмы раз, ведаю пра гэта многа. На экране ж кораценька, нібыта спехам. А вось пра тое, што адна госця Англіі за восем месяцаў «зарабіла» 26 тысяч фунтаў, гандлюючы сваім целам,— доўга і са смакам. Або як адна дзяўчына стала наркаманкай і дайшла да таго, што сто фунтаў у дзень патрэбна было ёй на наркотыкі, — таксама не спяшаючыся апавядалі па тэлевізару.

Моцна захліснула гэта зараза нашу краіну. Многа алкаголікаў, хуліганаў. Многа эмігрантаў, якія рабуюць пра[illegible]х. Гвалтаўніцтва і забойства су[illegible]днічаюць. Асабліва вечарамі і ноччу. Жанчыны ў гэты час у Лондане за дзверы дамоў не выходзяць. Эмігранты з Пакістана наваднілі Англію наркотыкамі. Невясёлыя, адным словам, насталі гады.

Каб збіць хвалю стачачнага руху, урад Тэтчэр стаў прадастаўляць пазыкі на будаўніцтва ўласнага жылля. Будуйся, маўляў, але калі ступіш крок у калону дэманстрантаў—аддай назад і пазыку, і дом. Такая вось «свабода» стачак і дэманстрацый. Дададзім сюды яшчэ два мільёны беспрацоўных, тысячы бадзяг, якія не маюць прытулку...

А хіба можна назваць гэта жыццём, калі эмігранты туляцца ў пакоях так званых гатэляў па пяцьсем чалавек. У брудзе і смуродзе. Даводзілася мне бачыць гэтыя жахлівыя ўмовы, у якіх, здаецца, і дня б не пражыў.

Павінен сказаць, што англійскі народ праяўляе вялікую цікавасць да жыцця ў СССР. На вуснах ваша перабудова, мірныя ініцыятывы. Вялікім аўтарытэтам сярод радавых англічан карыстаецца М. Гарбачоў. Мудры палітык, чалавек глыбокага пераканання і дзеяння. А вось Рэйган шмат гаворыць і мала робіць канкрэтных спраў. Усё аб правах чалавека клапоціцца. А правы гэтыя я на свае вочы бачу і ў нашай Англіі, і ў ЗША, дзе таксама даводзілася бываць.

У роднай вёсцы засталіся два мае аднагодкі. Шчыра зайздрошчу ім. Не адарваў іх няўмольны лёс ад сваёй Радзімы, жывуць яны на бацькоўскай зямлі, гадуюць унукаў, цешацца з іх. У хвіліны роздуму наплывае гарачая сляза, нібы страціў навек штосьці дарагое і светлае. Хаця чаму — нібы? Так яно і атрымалася.

...І вось наблізіўся час развітання з дарагімі сэрцу мясцінамі. Апошні раз прайшоў вясковай вуліцай, удыхнуў гаючае паветра Радзімы. Хто ведае, ці давядзецца вярнуцца сюды хоць бы на тыдзень. Але і далёка ад мілага сэрцу куточка, ад матулінай хаты буду ўспамінаць вясковую гаворку, родную мову. Такіх дарагіх і любых мне суайчыннікаў.

**Іосіф БЕКЕР-ПАМЕЦЬКА.**
Англія.

## ПА СЛЯДАХ ПАДАРОЖЖА ЗАХОДНЕБЕРЛІНСКАГА ПІСЬМЕННІКА

# СУПРАЦЬ КАРОТКАЙ ПАМЯЦІ

Два гады назад вядомы заходнеберлінскі публіцыст і радыёжурналіст Пауль Коль здзейсніў месячную рабочую паездку ў Савецкі Саюз. Мэта яе была не зусім звычайная. Прагрэсіўнага журналіста зацікавіў шлях, пройдзены ад савецкіх рубяжоў гітлераўскімі арміямі групы «Цэнтр» у час другой сусветнай вайны. Ён гаварыў, што акрамя серыі артыкулаў і перадач, на сабраным матэрыяле мяркуе падрыхтаваць дакументальную кнігу «Дарогай бацькоў». Але зусім не з настальгічнымі апісаннямі былых паходаў вермахта, якія не-не ды выходзяць з-пад пяра іншых заходніх мемуарыстаў. Публікацыі, паводле слоў госця, павінны былі ўключыць расказы простых савецкіх людзей, «відавочцаў крывавых шабашаў, здзекаў над мірным насельніцтвам, усіх тых зверстваў, якімі так вызначаўся фашысцкі «новы парадак». Дарога «бацькоў» — дарога злачынстваў і забойстваў. Такой уяўлялася задума будучай кнігі. А нядаўна заходнеберлінскі публіцыст зноў пабываў у Савецкім Саюзе.

Сваю мінулую камандзіроўку П. Коль пачынаў ад сцен Брэсцкай крэпасці. Сустракаўся з удзельнікамі абароны, брэстаўчанамі-старажыламі, якія перажылі акупацыю. Разам з Г. Карпуком — чалавекам, якога некалі ва ўпор расстрэльваў гітлераўскі афіцэр, ён пабываў у месцах, дзе праводзіліся масавыя расправы над жыхарамі Брэста.

Пазней Коль наездзіў больш тысячы кіламетраў па дарогах Брэстчыны. Наведаў урочышча Гай у Баранавіцкім раёне, дзе захопнікі пакаралі «нядобранадзейных» гараджан Чэхаславакіі, якіх дастаўлялі спецыяльным эшалонам. На дзесятках магнітафонных касет засталіся запісы ўспамінаў вязняў Калдычэўскага канцлагера, якія ўзрушвалі розум нармальнага чалавека. На невялікім участку зямлі каля станцыі Лясной было замучана больш за сто тысяч чалавек. Амаль палавіна сённяшняга Бр.

Збіраючы матэрыялы, сведчанні відавочцаў, П. Коль не мог абмінуць і трагедыі спаленых беларускіх сёлаў. «Кожная з такіх вёсак, — сказаў, сустракаючыся з ім пісьменнік У. Калеснік, адзін з аўтараў дакументальнай кнігі «Я з вогненнай вёскі...»,—гэта згустак болю, якому не суджана заціхнуць». У Пружанскім раёне знаходзіцца брацкая магіла жыхароў забітай карнікамі вёскі Байкі. У Малaрыцкім — лёс Хатыні падзялілі Забалоцце, Боркі, суседняе ўкраінскае сяло Картэлісы... Пабываўшы ў гэтых месцах, Коль папрасіў адшукаць — калі ёсць такая магчымасць — сведкаў фашысцкіх «акцый», хто застаўся жывым. Сведкі знайшліся — усяго некалькі старых. Мінулае яны ўспаміналі пакутліва цяжка. Але ўспаміналі, верачы, што гэтыя страшныя звесткі патрэбны сёння людзям там, на Захадзе.

Разам з кароткім пісьмом, адрасаваным работнікам сельскага музея ў Картэлісах, П. Коль прыслаў «Антыфашыстышэ магазін» — часопіс, што выдаецца Саюзам антыфашыстаў Заходняга Берліна. У нумары надрукаваны вялікі артыкул, які расказвае аб страшэнных рубцах, пакінутых на Брэстчыне ботамі заваёўнікаў. У загаловак вынесены словы, пачутыя ад Марыі Кондранавай, якая цудам выратавалася сярод агню і куль карнікаў. «Уставайце, наша смерць прыйшла». Гэта сказала ёй, тады дзяўчынцы, маці, выйшаўшы раніцой з хаты і ўбачыўшы, што вёску з усіх бакоў акружаюць гітлераўцы.

«Я трымаю ў руках многа невялікіх фатаграфій. Спаленыя людзі, дзеці. Ямы, напоўненыя трупамі. Вёска, акружаная салдатамі вермахта. Салдаты, што кідаюць гранаты ў вокны драўляных дамоў, пажары. І зноў — ямы, поўныя трупаў. Усе здымкі зроблены нямецкімі салдатамі, якія хацелі паслаць іх на радзіму. Як памяць аб «гераічных часах», — піша Пауль Коль.

Ён прыводзіць вытрымкі з архіўных дакументаў, загады, атрыманыя карнымі батальёнамі, нарэшце, успаміны людзей-відавочцаў.

Вось вытрымка з рапарта па 3-му батальёну 15-га паліцэйскага палка: «23 верасня 1942 года. Аперацыя пачалася з акружэння населеных пунктаў і скончылася на досвітку. Усе жыхары былі сабраны і праверaны СД. Па дакладных падліках, згодна з загадам, у Барысаўцы было расстраляна 169 мужчын, жанчын і дзяцей. У Борках — 705, у Забалоцці—289. Затым пачаўся падлік жывёлы, сельскагаспадарчых прылад і ўраджаю».

Што, скажыце, можна дадаць да гэтых педантычных рапартаў нелюдзяў?

Падрыхтаваныя Паулем Колем пасля паездак артыкулы і радыёперадачы — сумленны голас супраць спроб абяліць фашызм і фашыстаў, таму што дастаткова гучна раздаюцца на Захадзе і іншыя галасы. Тых, хто хоча сказіць, а то і зусім выкрасліць злавесную гісторыю трэцяга рэйха з памяці новых пакаленняў.

«Як магло здарыцца, што мы нічога пра гэта не ведалі?» — пыталіся маладыя немцы ў беларускага пісьменніка А. Адамовіча і кінарэжысёра Э. Клімава пасля прэм'еры іх антываеннага фільма «Ідзі і глядзі» ў Заходнім Берліне. Яны сапраўды амаль нічога не ведалі пра самыя змрочныя старонкі ў гісторыі свайго народа. Ці выпадкова?

Вядома, што нямала жыхароў нашай рэспублікі выязджалі за рубеж, выступалі сведкамі на судовых працэсах супраць былых катаў-нацыстаў. Злачынствы не могуць быць дараваны за тэрмінам даўнасці. Пакаранне за нечалавечыя ўчынкі павінна здзейсніцца дзеля самой чалавечнасці. Але далёка не ўсюды злачынцам пагражае адплата.

Супраць такой кароткай памяці, супраць забыцця ўрокаў гісторыі змагаецца сваімі кнігамі, перадачамі, выступленнямі ў друку Пауль Коль. Нядаўна, як ужо ўпаміналася, ён зрабіў новую паездку ў СССР, каб сабраць дадатковы матэрыял для кнігі. Дарэчы, дакументальны расказ, над якім пачалася праца два гады назад, павінен вось-вось убачыць свет. Пісаўся ён цяжка: не ўсім падабаецца антываенная дзейнасць публіцыста. Але ўсё-такі кніга прыйдзе да чытача.

На вокладцы «Антыфашыстышэ магазін» — архіўная фатаграфія палаючай сялянскай хаты і выдзелены чырвоным надпіс: «Ты думаеш, рускія хочуць вайны?» Упэўнены, што спазнаўшы сёння праўду аб той трагедыі, усё больш людзей на Захадзе зададуць сабе тое ж пытанне. І знойдуць адзіна правільны адказ на яго.

**Аляксандр СУВОРАЎ.**



**ВІЦЕБСК. Плошча Перамогі.**

**Фота А. ЦАРЛЮКЕВІЧА.**

# CADALSO PARA MISILES

*"En aquellos lugares, a ambos lados de la vía férrea, se extendían grandes espacios desérticos: Sary Ozek, Tierras Centrales de las estepas amarillas... Ediguéi fue el primero en detenerse... Cuanto alcanzaba la vista serpeaba arriba y abajo por la estepa la alambrada impenetrable de púas de varias filas enganchada de postes rectangulares de hormigón armado. Era una cerca sólida, segura. No se sabía dónde comenzaba ni dónde terminaba.*

*Probablemente, no terminaba en ninguna parte..."*

Chinguiz Aitmátov,
"El día dura mas de un siglo"

## REPORTAJE EN UNA ZONA SECRETA

Hace algunos días, solo los habitantes locales, los lectores de la famosa novela de Aitmátov y un estrecho círculo de especialistas militares sabían de Sary Ozek, perdido en la estepa kazaja quemada por el sol: allí se encuentra una base coheteril operacional de las Fuerzas Armadas de la URSS, hasta hace poco un objetivo rigurosamente secreto. Ahora, todo el mundo habla de Sary Ozek. El 1 de agosto de 1988, a las 12 en punto del día, hora de Moscú, allí fueron destruidos los primeros cuatro misiles de menor alcance OTR 22, que en Occidente llaman SS 12. Comenzó a cumplirse el Tratado de Washington.

### ¿UNA DESTRUCCIÓN "LIMPIA"?

No es fácil llegar a Sary Ozek. El vuelo Moscú — Alma Ata dura cuatro horas. Después, el viaje de media hora por la línea aérea local a Taldy Kurgán. De ese centro regional, Sary Ozek está, según las medidas locales, al alcance de la mano: a un centenar de kilómetros. Nuestro autobús avanzó, haciendo eses, entre empinadas colinas cubiertas de hierba marchita. A veces vimos cultivos cosechados y manadas de ovejas. Rara vez cruzamos poblados. No había dónde protegerse del sol: ni un solo árbol, ni arbusto. En verano la temperatura sube aquí a cuarenta grados centígrados. Pero nosotros tuvimos suerte: el 1 de agosto hizo un poco menos de treinta. A Sary Ozek conducía además otro camino, que comenzó en agosto de 1945 con la explosión de la bomba A en Hiroshima. Ese camino pasó por las mentes y los corazones de estadistas, políticos, militares, diplomáticos, intelectuales, eclesiásticos, gentes sencillas. A veces parecía que no había nada que esperar. Los jalones del escrupuloso trabajo por un mundo desnuclearizado son ahora bien conocidos: Ginebra, Reykiavik, Washington, Moscú.

Es poco probable que la ruptura a nivel "cumbre" hubiera sido posible si no hubiese sido por un millón de rupturas pequeñas en la mente de la gente común en distintos países, que va adquiriendo conciencia de pertenecer a una misma familia: a la Humanidad.

Antes de ir al lugar de la explosión, pasamos por el depósito de misiles. Los OTR 22 y OTR 23 estaban cual gigantescos saltamontes verdes bajo cielo abierto en plazoletas rodeadas de tumultos de tierra. A primera vista parecen inofensivos. Pero al que conoce sus características técnicas se le corta la respiración.

El coronel Stanislav Petrenko, jefe del Centro de control de la liquidación de los misiles de menor alcance de las Fuerzas de Tierra de la URSS, y el teniente coronel Alexandr Borodín, jefe de la base de Sary Ozek, explicaron: los misiles llegan de la RDA y Checoslovaquia, así como de las regiones de su concentración en el territorio de la URSS. Los primeros llegaron a Sary Ozek la primavera del año en curso. Se efectuaron ensayos experimentales para poner a prueba la tecnología. Los que demostraron que el método y el lugar de destrucción eran óptimos.

— Estamos seguros — subrayó Stanislav Petrenko — que los militares soviéticos han previsto todas las medidas para cumplir estrictamente el tratado.

— Hemos dedicado especial atención a los problemas ecológicos — precisó Alexandr Borodín—. Los experimentos evidencian que, en una semana de explosiones diarias, a la atmósfera se expulsarán menos sustancias y gases que, por ejemplo, en un mes de funcionamiento de una fábrica de calor y electricidad de media potencia. En cuanto al polvo y el contenido del cloruro de hidrógeno en el aire, al cabo de 10 a 15 minutos, en el lugar de la voladura la concentración es ya incomparablemente más baja que la admisible para el hombre y varias veces más baja que la registrada a diario en las grandes ciudades y poblados obreros.

En Sary Ozek no hay ojivas nucleares. Los vehícu[illegible] portadores llegaron sin ellas. De las [illegible]ezas de los misiles se extraerán los elementos nucleares, así como las aleaciones y metales valiosos, que se emplearán en la economía nacional. Las ojivas serán destruidas, pero no en Kazajstán...

### EXPLOS[illegible]N ENTRE APLAUSOS

Subimos nuevamente al autobús. En el polígono se veían ya desde lejos cuatro "saltamontes verdes" rodeados de explosivos en cajones planos. Todo estaba preparado para la operación, por lo que a los periodistas e incluso a los reporteros gráficos les cerraban el paso a unos treinta metros de los misiles.

El teniente coronel Igor Chaikovski, jefe del grupo de minadores, dio las explicaciones necesarias. Yo le pregunté por su actitud hacia lo que pasaba:

"Comprendo que el acontecimiento de hoy es de importancia histórica. Pero, en cierto sentido, me duele. Soy ingeniero militar y, por eso, sé cuánto trabajo, cuántos medios y cuánta energía creadora fueron invertidos en estos misiles. Además, estamos acostumbrados a cuidar de las armas. Por esto — dijo sonriendo el teniente coronel— quiero hacer una propuesta: que los estadounidenses vuelen nuestros misiles en nuestros polígonos y nosotros volaremos los suyos en EE.UU."

La explosión ocurrió a la hora fijada. Primero subió al cielo un globo ígneo. Unos segundos después oímos algo parecido al trueno: el puesto de observación estaba a tres kilómetros del lugar de la explosión. Después resonó otra explosión... Todos los presentes en el polígono respondieron con aplausos.

Volvimos allí donde varios minutos antes habían estado cuatro misiles. La potente carga se desmenuzó, convirtió en polvo metálico las armas antes potentes, que infundían temor no solo a los enemigos. El embudo de tres metros de profundidad estaba lleno de pequeños trozos de metal fundido. Trocitos iguales se podían ver también a muchas decenas de metros del epicentro de la explosión. Pero es imposible formar con ellos el misil.

Deberemos destruir 957[illegible]siles de combate y más de 300 de ins[illegible]icn. Para llevarlo a cabo harán falta como mínimo dos o tres años.

— ¿Qué será del polígono cuando se destruyan todos los misiles de menor alcance? —preguntó un pe[illegible]dista a Stanislav Petrenko.

— Esperamos comenza[illegible]a destrucción de los armamentos negociados en el diálogo soviético-estadounidense en Ginebra.

### CONTROL DOBLE

Michael Hritsik, jefe del grupo de inspectores estadounidenses, dijo:

— Todo corresponde a nuestras esperanzas. Los misiles fueron eliminados totalmente, y eso está muy bien. Nuestros nombres y los de nuestros colegas soviéticos desaparecerán de la historia, pero esa explosión, que inicia el proceso de desarme nuclear, se inscribirá en la crónica de la civilización humana.

Contemplando la destrucción de las costosas armas, creadas por el hombre, le asaltan a uno sentimientos desagradables. Pero uno comprende, antes que nada, que se destruyen armas nucleares, que amenazan a toda la humanidad —agregó Michael Hritsik—. No hay nada más importante que esto. Ignoro la fecha en que comience la destrucción de misiles en EE.UU., pero creo será pronto. Deberemos solventar toda una serie de problemas, incluidos de la protección del entorno.

Los "inspectores sociales", representantes de prestigiosas organizaciones y movimentos antibélicos de 17 países y cinco continentes. El Comité Soviético de la Paz los invitó a asistir a la liquidación de los misiles.

James Bush, ex-capitán de U. S. Navy, que mandó un submarino atómico y hoy es subdirector del Centro de Información de Defensa de EE.UU., se alegraba sinceramente:

—Hace poco aún, yo no podía ni imaginarme que pasearía libremente por una base militar soviética, fotografiaría los misiles y otras instalaciones, hablaría sin ningún impedimento con cualquier militar, haría cuanto se me ocurriera. Es magnífico. Estoy admirado.

Véase lo que dijo Ekkehard Lentz, de la RFA:

—La liquidación de la primera partida de misiles en Sary Ozek es el comienzo de una nueva etapa de esfuerzos por un mundo desnuclearizado. En la República Federal de Alemania gana cada vez mayor apoyo el llamamiento al Gobierno Kohl a que se pronuncie por nuevos pasos hacia la reducción de los armamentos nucleares y convencionales. Esto tiene gran importancia para nosotros porque el suelo alemán está literalmente embutido de todo tipo de armamentos. Ya es hora de que el Gobierno de la RFA pase de las palabras a los hechos. Concretamente, estaría bien, si antes de ir de visita a la URSS en otoño próximo, el canciller Kohl propusiera destruir los Pershing I A, de que está dotada la Bundeswehr.

Del carácter extraordinario de la explosión en Sary Ozek me hablaron el canadiense Bill Thompson, el nicaragüense Lesli Torres, el finlandés Matti Ruokola, Rais Ahmed, de India, Olga Yákovleva, alumna del séptimo grado de una escuela de Moscú... Los "inspectores sociales" se iban de Sary Ozek, creyendo en la razón humana y llevándose trocitos de metal de los misiles destruidos.

**Anatoli KOVRIGUIN**

Sary Ozek-Moscú

---

### SOCIEDAD DE JÓVENES LITERATOS

Esta sociedad, que empezó a funcionar en Bielorrusia, se ha planteado como tarea fundamental organizar estudios, divulgar la literatura y la cultura bielorrusas; se propone también mantener estrechos contactos creativos con jóvenes artistas de otras repúblicas.

### SEMINARIO DE TRADUCTORES DE SEIS PAISES

En los últimos diez años, editoriales de países socialistas han publicado 162 títulos de autores bielorrusos, y en Bielorrusia, 123 títulos de escritores de esos países.

Por iniciativa de la Unión de Escritores de esta república tuvo lugar en Minsk un seminario de traductores de literatura bielorrusa. Los invitados de la RDA, Bulgaria, Checoslovaquia, Hungría, Polonia y Yugoslavia pudieron conocer mejor la vida del pueblo bielorruso y sus adelantos culturales; tomaron parte en una reunión del Presídium de la Unión de Escritores celebrada conjuntamente con el departamento encargado de la traducción y los vínculos internacionales, en la que se discutieron algunos problemas profesionales.

### CIUDADANOS DE HONOR

En la lista de ciudadanos de honor de la capital bielorrusa ingresaron nuevos nombres: el del destacado compositor Vladimir Olovnikov, Artista del Pueblo de Bielorrusia, y el poeta Maxim Tank, Premios Lenin y de Estado a nivel de la URSS y de la república, presidente de la Junta Directiva de la Unión de Escritores de Bielorrusia.

El Soviet de Minsk concedió este título honorífico a Vladimir Olovnikov por la composición de piezas musicales sobre temas modernos y por su activa labor pedagógica, y a Maxim Tank, por su gran aporte al desarrollo de la literatura y la cultura soviéticas y por su amplia actividad social.

### UNA ANTIGUA VILLA

Cuando en el centro de la ciudad de Pólotsk se abrió un hueco para colocar los cimientos de un edificio residencial, se descubrieron objetos muy antiguos. Los constructores informaron de su hallazgo al Instituto de Historia, de la AC de Bielorrusia, cuyos colaboradores emprendieron de inmediato las excavaciones arqueológicas. Descubrieron muros de viejas casas hechos de gruesos troncos y objetos de uso doméstico de nuestros antepasados: restos de vasijas de barro, adornos de bronce e instrumentos. Entre los hallazgos más valiosos figura un sello de piedra tallada con el escudo de Pólotsk, que representa un caballero con espada. Se ha establecido que son restos de una villa de artesanos y comerciantes que remonta a los siglos XV—XVII.

### NUEVA MORADA DE LOS UROS

Cinco uros del vedado "Belovézhskaya puscha" fueron trasladados al coto ubicado en la vega del río Pripiat. Esta es la cuarta zona de Bielorrusia donde habitan ahora estos hércules habitantes de los bosques que figuran en el Libro Rojo Internacional y en los Libros Rojos de la URSS y Bielorrusia. Poco antes se llevaron uros al vedado "Nalibótskaya puscha" y a la reserva del Bereziná donde se adaptaron perfectamente y ya procrean. Se trasladoron también uros del "Belovézhskaya puscha" a los bosques en la vega del río Oká, al Cáucaso y a otros lugares. Ahora, estos animales no están en peligro de desaparición. Sólo en el parque nacional "Belovézhskaya puscha", centro internacional de restablecimiento de estos animales raros del período preglaciario, hay más de 200.



*En Minsk anualmente se realizan vueltas de ballet. Turistas de los EEUU, Brasil, Japón e Italia durante su estadía en Bielorrusia no sólo conocen los lugares notables de la república, sino también bajo la dirección de experimentados coreógrafos y maestros de baile asimilan diariamente la escuela de ballet y las danzas populares rusas, conocen las metodologías de enseñanza en la escuela coreográfica, como también el trabajo del elenco de ballet del Gran Teatro Estatal Académico de Opera y Ballet de Bielorrusia.*
*El grupo de Italia consta de 11 personas. Entre ellos hay no sólo alumnos de escuelas privadas, sino también estudiantes de la Academia de baile de Roma.*
*En la foto: Clases de elementos de bailes de salón. En el primer plano — la estudiante de la Academia de baile de Roma Adela Balestrini.*

Foto: V. SHUBA

**Redactor de la «Página en español» D. OKULIK**

## ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ І ПЕРАБУДОВА

# ПАЗІЦЫЯ: ДАЙСЦІ ДА ІСЦІНЫ

*Сёння мы працягваем публікацыю выступленняў дзеячаў беларускай культуры, вучоных па праблемах перабудовы. Матэрыял падрыхтаваны карэспандэнтам «Голасу Радзімы» Таццянай АНТОНАВАЙ.*



**Аляксандр КУРСКОЎ, вучоны сакратар Інстытута заалогіі АН БССР, старшыня секцыі рэспубліканскага таварыства аховы прыроды**

**— Ці могуць стаяць у адным кантэксце такія паняцці, як «прырода» і «культура»! Як яны ўзаемазвязаны!**

— Яны абавязкова павінны стаяць у такім кантэксце. Культура — паняцце надта шырокае. Даволі цяжка вытлумачыць некалькімі словамі яго сэнс. Я думаю, што культура — гэта тое, што садзейнічае захаванню чалавецтва. Знішчыць прыроду—і яно таксама загіне. Адносіны да прыроды, у сваю чаргу, вызначаюць узровень культуры грамадства, узровень культуры кожнага чалавека. Не выпадкова, я лічу, што ў абмеркаванні экалагічных праблем цяпер актыўны ўдзел прымаюць не толькі дзеячы навукі, але і людзі культуры, мастацтва.

У час перабудовы, дэмакратызацыі і публічнасці шырокай грамадскасці стала вядома, што ў нас у рэспубліцы далёка не ўсё добра ў экалагічных адносінах. Многія прамысловыя прадпрыемствы яшчэ забруджваюць паветранае асяроддзе хімічнымі выкідамі, спускаюць неачышчаную брудную ваду ў рэкі і вадаёмы, у нездавальняючым стане некаторыя лясныя масівы, не вырашаны Прыпяцкая, Салігорская, Наваполацкая экалагічныя праблемы.

Мяне, як спецыяліста-заолага, які многа гадоў працаваў у старэйшым запаведніку нашай краіны «Белавежская пушча», вельмі хвалюе яго сённяшні стан.

Белавежская пушча — нацыянальная гордасць беларускага народа і ўсёй краіны ў цэлым. Гэта унікальны прыродны комплекс з запаведнымі лясамі, разнастайным раслінным і жывёльным светам. Ён атрымаў сусветную вядомасць за захаванне дзікай флоры і фауны, за правядзенне на яго тэрыторыі шматлікіх навуковых даследаванняў, якія дазваляюць даведацца аб законах функцыяніравання прыродных экасістэм. Асаблівая заслуга Белавежскай пушчы — адраджэнне ў яе лясах белавежскага зубра. Значэнне гэтага рэгіёна ўсё больш узрастае як эталона прыроды. Аднак у апошнія гады з асаблівай выразнасцю стала праяўляцца неадпаведнасць асноўнай назвы Белавежскай пушчы як эталона і рэзервата прыроды са статусам і дзейнасцю запаведна-паляўнічай гаспадаркі, што вядзе да яўнай дэградацыі гэтага унікальнага прыроднага комплексу.

Прырода — складаны комплекс, у якім усе з'явы надзвычай цесна звязаны паміж сабой і абумоўліваюць адна адну. Каб пазбегнуць шкодных вынікаў выкарыстання прыродных багаццяў, неабходна добра ведаць гэтыя ўзаемасувязі. Толькі спасцігнуўшы законы прыроды, мы зможам больш актыўна ўдзельнічаць у тым, каб яе багацці служылі чалавеку. Для вывучэння заканамернасцей гэтых працэсаў у Беларусі створана сетка заказнікаў (больш за 70) і запаведнікаў (Бярэзінскі біясферны і Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны) — своеасаблівых навуковых лабараторый у прыродзе. Неацэннае значэнне гэтых ахоўваемых прыродных комплексаў для зберажэння ўсёй разнастайнасці расліннага і жывёльнага свету, для аховы яго генафонду. Перад запаведнікамі і заказнікамі стаяць вялікія задачы па далейшай распрацоўцы навуковых асноў кіравання прыроднымі рэсурсамі і іх аховы. Акрамя таго, яны маюць і вялікае рэкрэацыйнае значэнне, таму што іх штогод наведваюць сотні тысяч аматараў прыроды.

Пасля прыняцця ў студзені гэтага года ЦК КПСС і Савецкім урадам пастановы аб карэннай перабудове справы аховы прыроды, нацэленай на аздараўленне экалагічнай абстаноўкі, у нашай краіне разгарнуўся ўсенародны рух за ахову прыроды, за захаванне навакольнага асяроддзя.

Надзвычай важная тут роля органаў адукацыі, літаратуры, мастацтва. Як аматар выяўленчага мастацтва, я пастаянна бываю на рэспубліканскіх выстаўках і бачу, што да экалагічных праблем усё часцей звяртаюцца беларускія мастакі, такім чынам прыцягваючы да іх увагу грамадскасці. Мяркую, што і сярэдняй школе варта падумаць аб тым, як, даючы комплекс ведаў па геаграфіі, хіміі, батаніцы, звязаць іх з сучаснымі праблемамі экалогіі.



**Элеанора ВЕЦЕР, мастацтвазнавец, навуковы супрацоўнік аб'яднання «Белрэстаўрацыя»**

**— У канцы ліпеня група творчай інтэлігенцыі рэспублікі была прынята першым сакратаром ЦК КПБ Яфрэмам Сакаловым і Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Георгіем Таразевічам. Як паведамлялася ў прэсе, адбылася шматгадзінная гутарка. Якія пытанні там абмяркоўваліся!**

— Гаворка ішла аб шляхах развіцця беларускай нацыянальнай культуры і адукацыі. Як вядома, кожная нацыя хоча быць не толькі сытай, але і вечнай.

Гады застою самым неспрыяльным чынам адбіліся на стане культуры рэспублікі. Сёння нацыя аказалася перад пагрозай страты гістарычнай і моўнай памяці. Таму зараз трэба прыкласці немалыя ўсеагульныя намаганні, каб разблытаць тугі вузел праблем. На шчасце, сама атмасфера, якая ўсталёўваецца ў нас у краіне, спрыяе вырашэнню многіх пытанняў. Пазіцыя кіруючых органаў тут адназначная. Пра гэта сведчаць майскі пленум ЦК КПБ, нядаўнія сустрэчы па народнай асвеце ў ЦК КПБ, у Мінскім гаркоме, ды і апошняя сустрэча ў ліпені з інтэлігенцыяй.

На гэтай сустрэчы былі выказаны вельмі канструктыўныя прапановы па паляпшэнню выкладання беларускай мовы ў школе, па падрыхтоўцы спецыялістаў. Дарэчы, педагогі падзяліліся сваімі сумненнямі ў мэтазгоднасці адкрыцця асобных беларускіх класаў у школах рэспублікі. Яны лічаць, што гэта мера зусім недастатковая. Больш мэтазгодна адкрываць беларускія ці пераводзіць асобныя рускамоўныя школы на беларускую мову навучання цалкам, пачынаючы з першых класаў.

Прадметам абмеркавання стала і сітуацыя, якая склалася пры будаўніцтве другой лініі метро. (Яно неглыбокага залягання). Яе значны ўчастак павінен прайсці пад гістарычным цэнтрам горада, што можа прывесці да разбурэння ці пашкоджання помнікаў гісторыі і культуры, якія ахоўваюцца дзяржавай. Было даведзена да ведама ўрада, што распачатыя работы па пракладцы метрапалітэна ўжо прывялі да значнага пашкоджання будынка манастыра базіліянаў і шэрагу іншых помнікаў. Усё гэта атрымалася таму, што ў свой час праектная дакументацыя на будаўніцтва метро ў межах Верхняга горада ва ўстаноўленым парадку не была ўзгоднена з дзяржаўнымі органамі аховы помнікаў СССР і БССР, а таксама з Беларускім добраахвотным таварыствам аховы помнікаў гісторыі і культуры. У будаўніцтва ж, між тым, укладзены мільёны рублёў дзяржаўных грошай...

Трэба сказаць, што сама гэта сустрэча не была безвыніковай. Неўзабаве пасля яе створана грамадская камісія па кантролю за эфектыўнасцю і якасцю рэалізацыі мерапрыемстваў па забеспячэнню захаванасці аб'ектаў гістарычнага цэнтра Мінска пры будаўніцтве і эксплуатацыі другой лініі метро.

Грамадская ініцыятыва, як бачна, можа стаць магутнай сілай. А ці зможа яна перамагчы бюракратычныя і ведамасныя інтарэсы, будзе залежаць ад пазіцыі кожнага чалавека, яго актыўнасці, усведамлення асабістай адказнасці за захаванне гістарычнай спадчыны ўсяго народа.



**Васіль ЗУЁНАК, паэт, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР**

**— Васіль Васільевіч, як, на ваш погляд, у сучаснай беларускай літаратуры праяўляецца дух перабудовы!**

— У нас апошнім часам чамусьці нярэдка выкарыстоўваецца тэрмін «літаратура перабудовы». Я супраць гэтага тэрміна. Думаецца, мастацтва не можа быць для перабудовы ці яшчэ для якіх мэт. Сапраўдная літаратура заўсёды была акумулятарам перадавых ідэй, іх носьбітам і прапагандыстам. Усё, што мы сёння называем такім ёмістым словам «перабудова», узгадоўвалася ў сэрцах людзей не ў апошнюю чаргу і мастацкім словам. Таму шукаць сёння, менавіта толькі сёння, перабудоўчыя матывы, скажам, у творчасці Пімена Панчанкі было б, прынамсі, несур'ёзна ў тым сэнсе, што яго паэтычнае слова было заўжды, у любы час, нацэлена і супраць бюракратызму, і супраць кар'ерызму, зрэшты, супраць усяго негатыўнага, з чым мы зараз так горача ваюем. А Васіль Быкаў?! Ды ён жа ў самыя што ні ёсць застойныя гады напісаў сваю самую, на маю думку, выдатную рэч і самую вострую ў сэнсе грамадзянскім — «Знак бяды». У ёй глыбінны аналіз народнага жыцця, дыханне той несмяротнай праўды, якую сёння імкнецца сцвердзіць наша грамадства. І гэта прывілея не толькі выдатных прадстаўнікоў сучаснай беларускай літаратуры. Гэта — традыцыя, закладзеная Купалам, Коласам, Гарэцкім. Іншая справа, што дух перабудовы кожнаму мастаку як бы надаў новы імпульс для пошукаў, даў магчымасць, лягчэй і смялей распрастаць крылы. І — не забудзем — павысіў патрабаванні. Сёння ўжо ніяк не павінна праходзіць пышнаслоўная траскатня. Сёння ў цане думка. А ў любым мастацкім творы — гэта не апошняя спіца ў коле.

Дух перабудовы ўваходзіць у нашу літаратуру і вяртаннем незаслужана забытых, а найбольш — закрытых ад чытача твораў. Толькі што вярнуўся да нас выдатны паэт Алесь Гарун, вярнуліся вострыя, гратэскныя «Запіскі Самсона Самасуя» Андрэя Мрыя (ён у нечым блізкі па стылю рускаму празаіку Платонаву)...

Не варта, зразумела, адмахвацца і ад папрокаў: маўляў, перабудова ідзе, а новых яркіх твораў, якія прыцягнулі б увагу грамадскасці, не бачна. Сапраўды, гэта так. Але трэба разумець, што творчы працэс — справа далікатная, падштурхоўваць тут нельга. Думка павінна выспець. І тут, перш за ўсё, гэты заклік мы павінны адрасаваць публіцыстыцы. Змаўчаць на такім крутым пераломе — прызнацца ў сваёй слабасці.

Аптымізм лучыцца ў нас і з маладымі літаратурнымі сіламі. Ідуць і таленавітыя празаікі, і паэты. Адно хочацца пажадаць ім, каб іх грамадзянскі парыў і пафас хутчэй пераплавіўся, матэрыялізаваўся ў мастацкіх творах.



**Расціслаў БУЗУК, намеснік загадчыка аддзела культуры ЦК КПБ, кандыдат мастацтвазнаўства**

**— У выступленні Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова на адным з пленумаў прагучаў заклік забяспечыць ідэалагічную аснову перабудовы. За ім стаіць зварот нашай партыі да ўсіх творчых сіл, да ўсіх, каго мы называем інтэлектуальным патэнцыялам грамадства. Інтэлігенцыя, як вядома, падтрымала ідэі перабудовы. Як жа гэтыя ідэі ўвасабляюцца ў творчым пошуку нашых дзеячаў культуры! Якія напрамкі культурнай палітыкі ў рэспубліцы, накіраваныя на развіццё і ўздым нацыянальнай культуры!**

— Перш за ўсё, на мой погляд, варта адзначыць, што ўмовы існуючай у краіне перабудовы самым непасрэдным чынам спрыяюць далейшаму развіццю культуры. І інтэлігенцыя гэта адчувае і разумее. Кожны дзень прыносіць нам новыя і новыя доказы таго, што праблемы літаратуры і мастацтва і шырэй — культуры ў цэлым далёка выходзяць за рамкі ўласна эстэтычнай праблематыкі ў іх традыцыйным разуменні, усё больш становяцца як бы індыкатарам, а то і мадэллю вялікіх духоўных працэсаў, якія адбываюцца ў грамадскай свядомасці.

І гэта не дзіўна. Бо сфера культуры — адна з самых чуйных і эмацыянальных у грамадскім жыцці. Тут павышаная ўражлівасць і чуласць, абвостранае маральнае пачуццё «спрацоўваюць» тым хутчэй і мацней, чым больш доўгачаканыя і надзённыя перамены, чым больш энергічна і рашуча адлюстроўваюць яны наспеўшыя агульнанародныя інтарэсы.

У сацыялістычным абнаўленні грамадства вялікую ролю адыграла кансалідацыя дзеячаў культуры, творчых сіл на платформе перабудовы. Мы сёння можам канстатаваць, што адыходзяць у мінулае адміністраванне ў кіраўніцтве культурай, настаўленні і павучанні ў адрас мастакоў. У духоўнай сферы паступова складваецца атмасфера спаборніцтва, свабоднага творчага пошуку, заснаванага на грамадзянскай адказнасці мастака перад сваім сацыялістычным грамадствам.

І гэта ўжо прыносіць свой плён. У нашай публіцыстыцы, мастацкіх і навуковых выданнях разгарнулася небывалая па маштабу, шчырасці, інтэлектуальнай насычанасці размова аб шляхах абнаўлення сацыялізму, аб гісторыі і сучаснасці. Значна актывізавалася грамадская, палітычная дзейнасць прадстаўнікоў навукі, адукацыі, культуры. Усё гэта добра. Усё гэта прыкметныя вехі нашага часу. Але сёння мы маем права чакаць ад творчай інтэлігенцыі і значна большага ўкладу ў духоўную скарбніцу народа, іншымі словамі, таленавітых твораў, якія нясуць праўду аб жыцці і дзяяннях народа, праўду сацыялістычных і агульначалавечых ідэалаў. Магчыма, камусьці гэтая думка пакажацца спрэчнай, але я думаю, пазіцыю любога дзеяча культуры ў адносінах да перабудовы трэба было б вызначаць не па дэкларацыях, а па канчатковаму творчаму выніку працы, па тым, чым ён узбагаціў мастацкую культуры. Бо менавіта мастацкая культура несла і нясе ў сабе жывую сувязь і пераемнасць пакаленняў, дапамагае чалавеку адчуць роднасць са сваім народам, яго гісторыяй і надзеямі на будучыню. Дык ці не ў развіцці мастацкай культуры патрыятычны абавязак мастака?

Сёння ў цэлым працэсы ў сферы культуры развіваюцца на здаровай аснове. Але мы дапусцілі б неаб'ектыўнасць, паграшылі супраць ісціны, калі б сказалі, што яны ідуць без супярэчнасцей, без выдаткаў. Як у грамадстве ў цэлым, так і сярод інтэлігенцыі праяўляюцца і кансерватызм, непрыняцце навізны, ёсць і лёгкаважкасць у ацэнцы падзей, якія адбываюцца, і нават безадказнасць у падыходах да складаных праблем нашага развіцця. Іншы раз даводзіцца назіраць, што некаторыя дзеячы культуры і сёння не могуць адмовіцца ад міжусобнай барацьбы, групавых страсцей і асабістых амбіцый. Нямала і такіх, хто з раздражненнем успрымае творчыя пошукі, а нарастаючую разнастайнасць прымае за адхіленне ад прынцыпаў сацыялістычнага мастацтва. Гэта зразумела: надта ж доўга аднолькавасць, аднастайнасць, шэрасць выдаваліся за эталоны прагрэсу. Няма ў нас яшчэ прывычкі да дыскусій (крайне нізкая культура іх правядзення), да іншадумства, да свабоднага спаборніцтва. Не трэба драматызаваць становішча. Тым больш, што для гэтага няма асобных падстаў. Але не заўважаць такія з'явы, замоўчваць, праходзіць міма іх было б неразумна.

Калі гаварыць аб галоўным напрамку палітыкі ў галіне культуры, то ён бачыцца як зварот да ленінскіх прынцыпаў, паварот да чалавека, да духоўнага ўзбагачэння народа. Гэта галоўнае, у сваю чаргу, складваецца з некалькіх асноўных напрамкаў, якія я паспрабую коратка ахарактарызаваць.

Перш за ўсё, я хацеў бы сказаць аб павышэнні ў гэтай справе ролі творчых саюзаў рэспублікі. Прайшоўшыя з'езды і пленумы саюзаў пісьменнікаў, кінематаграфістаў, мастакоў, кампазітараў, тэатральных дзеячаў далі многа новых ідэй якаснага змянення ў змесце дзейнасці гэтых прафесіянальных аб'яднанняў творчых работнікаў, якія бяруць на сябе клопат аб накіраванасці развіцця беларускай нацыянальнай культуры на сучасным этапе.

Затым варта вылучыць напрамак грамадска-культурнай дзейнасці. Я маю на ўвазе стварэнне новых грамадскіх арганізацый: Беларускага фонду культуры, Беларускага музычнага таварыства, якія актыўна ўключыліся ў культурнае жыццё рэспублікі. Зусім нядаўна прынята рашэнне аб арганізацыі Тэатральнага і Музычнага фондаў БССР. Цяпер вывучаецца пытанне арганізацыі ў рэспубліцы Таварыства народных майстроў.

Яшчэ адным важным напрамкам з'яўляецца работа па ўмацаванню матэрыяльнай базы культуры. Толькі за апошнія тры гады ў рэспубліцы прыняты меры, накіраваныя на рэзкае расшырэнне базы і ўдасканаленне работы клубных установ, канцэртнай дзейнасці, тэатральнай справы, развіццё выяўленчага мастацтва, умоў дзейнасці творчых саюзаў.

Уздыму нацыянальнай культуры, безумоўна, будзе садзейнічаць і расшырэнне праблематыкі ствараемых твораў літаратуры і мастацтва. Сёння многія мастакі працуюць над тэмамі, якія некалькі год назад лічыліся непапулярнымі, непатрэбнымі. Творчыя калектывы і арганізацыі сёння маюць права самі выбіраць тое, што хвалюе і натхняе дзеячаў мастацтва. І яны гэтым правам актыўна карыстаюцца.

Немалаважнае значэнне для развіцця нацыянальнай культуры мае дэмакратызацыя культурнай спадчыны: вяртанне незаслужана забытых твораў і імёнаў дзеячаў беларускай культуры.

Змяненні адбываюцца і ў сферы кіравання культурай. Перш за ўсё, размова ідзе аб удасканаленні структуры Міністэрства культуры рэспублікі. Ідуць пошукі аптымальных, адпаведных часу форм і метадаў работы з творчай інтэлігенцыяй, калі ўсё большае значэнне набываюць кампетэнтнасць, павага да таленту. Безумоўна, функцыі органаў кіравання культурай не падобныя да функцый якіх-небудзь іншых галіновых міністэрстваў. Тут проціпаказаны інструкцыі і дырэктывы, якія самі па сабе мастацтва не ствараюць. Тут на першы план выступаюць задачы стварэння ўмоў, спрыяльнага клімату для творчасці. А гэта мае на ўвазе і абавязкова неабходны рост інтэлігентнасці кадраў, іх унутранай культуры, адукацыі і такту ў рабоце з інтэлігенцыяй.

Задача развіцця і ўздыму нацыянальнай культуры не можа быць аднойчы вырашана раз і назаўсёды. Гэта як лінія гарызонту... Успамінаюцца ленінскія словы, што для культурнай рэвалюцыі неабходна цэлая гістарычная эпоха, што вялікае павышэнне культуры — працяглы, складаны працэс не простага росту «адукаванасці», «пісьменнасці», а абавязкова чалавечай, асобаснай самасвядомасці, творчай ініцыятыўнай энергіі, духоўных інтарэсаў, свядомага і актыўнага ўдзелу ў «паляпшэнні дзяржавы», у абнаўленні грамадства. Гэтыя ідэі сугучныя ідэям перабудовы. Імі і трэба жыць.

*ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ВЫДАТНАГА БЕЛАРУСКАГА МАСТАКА ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА*





# ВЕЧНЫ ВАНДРОЎНІК

Так назваў Язэпа Драздовіча наш сучаснік, пісьменнік і вучоны Арсень Ліс, які даследаваў творчасць мастака і расказаў людзям пра выдатнага беларускага графіка, жывапісца, скульптара.

Язэп Драздовіч нарадзіўся ў засценку Пунькі, што знаходзіцца на ўскрайку Галубіцкай пушчы. Сям'я рана страціла бацьку. Клопаты па гаспадарцы леглі на плечы маці. Не адно месца жыхарства змянілі Драздовічы, арандуючы чужую зямлю. Вучыўся хлопчык спачатку ў Дзісне, а потым чатыры гады ў Віленскай рысавальнай школе. Будучы мастак рана ўсвядоміў сваю прыналежнасць да роднай зямлі, еднасць з ёю. Гэтаму ў многім спрыяла знаёмства з асяроддзем «Нашай нівы», дзе Я. Драздовіч часта бываў. Там знаходзілася калекцыя яго ранніх графічных малюнкаў і першыя жывапісныя фантазіі. На вокладцы «Беларускага календара» быў надрукаваны сімвалічны малюнак мастака «Старая і маладая Беларусь». Я. Купала заказаў Я. Драздовічу вокладку першага зборніка маладой таленавітай паэтэсы Канстанцыі Буйло «Курганная кветка».



Гістарычныя ўмовы наканавалі Язэпу Драздовічу лёс бяспраўнага мастака ў былой Заходняй Беларусі, якая знаходзілася пад уладай буржуазнай Польшчы. Замест заняткаў творчасцю трэба было здабываць кавалак надзённага хлеба. І ўсё ж, як зазначаюць даследчыкі, працаваў ён шмат, нават апантана, і мастацкая спадчына Я. Драздовіча, раскіданая па свеце, уражвае і арыгінальнасцю, і колькасцю зробленага за не вельмі доўгі век — 64 гады.

Багатай і цікавай спадчынай Язэпа Драздовіча з'яўляецца графічная серыя старадаўняга дойлідства Беларусі. Мастак працаваў з думкай аб вяртанні народу гістарычнай памяці, дзеля мацавання яго свядомасці ў нялёгкіх выпрабаваннях сучаснасці.

Другой стыхіяй мастака, у якой жыў, якую адчуваў усім сэрцам, была прырода. На яго аркушах паўстаюць сялянскія сядзібы, вёскі, прытуленыя ў лясной глухамані, шляхецкія засценкі, рачныя берагі з курганамі, старыя шляхі...

Вандроўкі раскрывалі перад мастаком не толькі пяшчотнае харaство роднай зямлі, прыроды, давалі магчымасць спазнаць багацце народнай душы, пераконвалі ў таленавітасці, жыццёвасці чалавека працы. Мастак горача верыў, што ў будучыні знікнуць войны, чалавек вызваліцца ад знясільваючай фізічнай працы і ўвесь свой геній аддасць развіццю творчасці, пазнанню Сусвету. На пачатку 30-х гадоў Я. Драздовіч стварае каля двух дзесяткаў карцін, прысвечаных касмічным матывам.

У гэтыя дні, калі мы адзначаем славуты юбілей таленавітага беларускага мастака Язэпа Драздовіча, у Дзяржаўным мастацкім музеі БССР працуе выстаўка, на якой экспануюцца яго графічныя, жывапісныя і скульптурныя працы.

Арганізатары выстаўкі — Міністэрства культуры БССР, Беларускі фонд культуры, Саюз мастакоў рэспублікі, Дзяржаўны мастацкі музей Беларусі — парупіліся, каб па магчымасці найбольш поўна прадставіць творы Я. Драздовіча з фондаў таго ж мастацкага музея, а таксама Дзяржаўнага музея БССР, Музея старажытнай беларускай культуры АН БССР, фундаментальнай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН БССР, Літаратурнага музея Якуба Коласа, гісторыка-этнаграфічнага музея Літвы, з прыватных калекцый. Тым самым пашыраецца ўяўленне аб сапраўдным мастакоўскім подзвігу Язэпа Драздовіча, які асноўнае сваё прызначэнне бачыў у самаадданым служэнні роднаму народу, Радзіме, пастаянна дбаў аб тым, каб народ далучаўся да вытокаў культуры, добра ведаў сваё гераічнае мінулае.

Знаёмства з выстаўкай — зайздросная магчымасць прайсціся сцяжынамі творцы-падзвіжніка, удыхнуць паветра, што жывіла яго, надавала сілы і моцы на ўсё новыя і новыя мастакоўскія пошукі.

Шчодра апрацоўваў свой мастакоўскі загон і сам Я. Драздовіч, кідаючы ў барозны зерні святла, дабра, справядлівасці. І сімвалічна тое, што яго творчая зорка, запаленая ва ўмовах, далёка не спрыяльных для развіцця беларускай нацыянальнай культуры, заззяла на яе гарызонце ва ўсю моц сёння, калі меншае «белых плям» у гісторыі.

Пасля Мінска з выстаўкай твораў Я. Драздовіча пазнаёміцца літоўская грамадскасць.



**НА ЗДЫМКАХ: Я. ДРАЗДОВІЧ. «Космас»; «Друкарня Ф. Скарыны ў Вільні»; з серыі «Палессе».**



**Першы ў рэспубліцы серпентарый створаны ў Бабінавіцкай паляўнічай гаспадарцы Сенненскага раёна. Эксперыментальная партыя рэптылій-гадзюк звычайных утрымліваецца ў спецыяльным змеегадавальніку. На яго базе мяркуецца арганізаваць эксперыментальна-паляўнічую гаспадарку па развядзенню рэптылій. Яны будуць выкарыстоўвацца ў асноўным для атрымання змяінага яду — незаменнай сыравіны для вытворчасці лекавых прэпаратаў. Варта адзначыць, што адзін грам сухога змяінага яду на сусветным рынку цэніцца даражэй за золата — паўтары тысячы долараў. А каб атрымаць яго, патрабуецца «падаіць» каля 150 змей.**

**НА ЗДЫМКАХ: агульны выгляд серпентарыя; «даенне» гадзюкі. Пракусіўшы стэрылізаваную накрыўку, змяя выпырсквае яд у спецыяльную пасудзіну; змеялоў Сяргей ЗЯНЬКОЎ.**

**Фота А. ЦАРЛЮКЕВІЧА.**





*ПРА МУЗЕЙ ГІСТОРЫІ БЕЛДЗЯРЖУНІВЕРСІТЭТА*

# КАБ ЖЫЛА ПАМЯЦЬ

Хачу расказааць пра адзін з трох музеяў Белдзяржуніверсітэта. Хаця геалагічны і біялагічны музеі маюць дастаткова багатыя калекцыі, бадай што, самы цікавы — наш гістарычны музей.

Экспазіцыя яго складаецца з пяці раздзелаў: гісторыя універсітэта, археалогія, этнаграфія, нумізматыка Беларусі, гісторыя Старажытнага Усходу.

Аддзел гісторыі універсітэта—вядучы ў музеі. Аб цяжкасцях і перамогах перадваенных пяцігодак расказваюць першыя вітрыны экспазіцыі. Асаблівае ўражанне на наведвальнікаў аказваюць матэрыялы, якія расказваюць аб выпрабаваннях, што выпалі на долю нашага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Салдацкая фляга і афіцэрская палявая сумка, бінокль і баявыя ўзнагароды, а побач—партрэты тых, каму яны належалі, людзей, чыё жыццё абарвалася ў саракавыя. Яны так і засталіся маладымі.

Трохкутнічкі франтавых лістоў. Гэта жывыя галасы салдат, іх родных і блізкіх.

Асноўным навучальным раздзелам музея з'яўляецца раздзел археалогіі, экспазіцыя яго пабудаваная па храналагічнаму прынцыпу і ахоплівае перыяд ад каменнага веку да XVII стагоддзя. Тут дэманструюцца шматлікія рэчы, знойдзеныя пры археалагічных раскопках у Беларусі.

Найбольш багатыя раздзелы, якія паказваюць гісторыю Старажытнарускай дзяржавы. Дэманструюцца вынікі раскопак як гарадоў (Орша, Копысь, Свіслач, Рагачоў), так і сельскіх помнікаў (паселішча на Менцы і інш.). Рэчы і даюць уяўленне аб узроўні развіцця старажытнарускага рамяства і гандлю, аб духоўнай культуры народа.

Значнае месца ў экспазіцыі раздзела займаюць матэрыялы па гісторыі Мінска — аднаго з самых старажытных гарадоў Беларусі.

Пастаянна дзеючую экспазіцыю тут дапаўняе рэгулярна аднаўляемая выстаўка «Новыя адкрыцці археалагічнай экспедыцыі БДУ». Тут жа апошнія знаходкі археолагаў універсітэта.

У раздзеле этнаграфіі можна пазнаёміцца з традыцыйна-бытавымі прыладамі беларускіх сялян другой паловы XIX—пачатку XX стагоддзяў. Захоўваліся гэтыя рэчы ў быце вёскі і ў 20-я, і часткова ў 30-я гады нашага стагоддзя. Матэрыялы расказваюць аб характары працы ў земляробстве, жывёлагадоўлі, рыбалоўстве, хатняй гаспадарцы беларускіх сялян у мінулым.

Цікавяцца наведвальнікі экспазіцыяй раздзела нумізматыкі, дзе змешчаны знойдзеныя на беларускай зямлі манеты і манетныя скарбы. Раздзел гэты створаны як вучэбна-наглядны дапаможнік для студэнтаў, якія слухаюць курс нумізматыкі—дысцыпліны, што вывучае гісторыю грашовых сістэм і грашовага абарачэння.

У залах музея праводзяцца таксама заняткі па археалогіі, этнаграфіі, нумізматыцы, культуры Антычнасці і Усходу са студэнтамі гістарычнага факультэта. Па матэрыялах аддзелаў ст[illegible]ты пішуць свае курсавыя і дыпломныя ра[illegible]ы. Тут праводзяць пасяджэнні і разнастайныя студэнцкія навуковыя гурткі.

Распрацаваны шэраг тэматычных экскурсій для розных катэгорый наведвальнікаў («БДУ ўчора і сёння», «Старажытная гісторыя Беларусі[illegible]Гісторыя матэрыяльнай культуры беларуса[illegible]«Гісторыя грашовага абароту Беларусі» і г. д.).

Паводле існуючай традыцыі, студэнты, залічаныя на першы курс, знаёмяцца з гісторыяй універсітэта. Пастаяннымі гасцямі музея сталі навучэнцы сярэдніх школ Мінска. Для многіх гэтыя экскурсіі былі першым наглядным, а таму і найбольш яркім знаёмствам з гісторыяй нашай Радзімы, дапамаглі ў выбары будучай прафесіі.

Праводзяць музей і часовыя выстаўкі, прысвечаныя разнастайным памятным датам з гісторыі краіны. Запомніліся наведвальнікам фотавыстаўкі «Дзень Перамогі», «Вялікі Кастрычнік у Беларусі», «Мастацтва Балгарыі». Аднак найбольшую колькасць наведвальнікаў сабрала выстаўка «Савецкі рубель», на якой былі прадстаўлены ўзоры савецкіх грашовых знакаў 1917—1987 гадоў.

З дапамогай універсітэцкага аддзялення Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры ў музеі арганізавана пастаянна дзеючая выстаўка «Помнікі дойлідства Беларусі XII—XVII стагоддзяў».

Дзверы музея заўжды гасцінна расчынены для тых, хто цікавіцца мінулым роднага краю.

**Аляксандр ПЛАВІНСКІ.**



## спорт

...Фініш фіналу бегу на 400 метраў з бар'ерамі. На вялікім табло з'явіўся надпіс: «Лядоўская (СССР)—залаты медаль». Але хутка суддзі ўносяць папраўку. Фотафініш выявіў, што перамагла аўстралійка Флінтаф-Кінг, а мінчанка Таццяна Лядоўская заняла другое месца.

...Усхваляваны хадзіў па зале перад каманднымі спаборніцтвамі рапірыстаў майстар фехтавальнага мастацтва мінчанін А. Раманькоў. Шматразовы чэмпіён свету, прызёр трох Алімпійскіх гульняў. Вось і ў Сеуле, на чацвёртых Гульнях, у асабістым заліку заваяваў «толькі» трэцяе месца. Няўжо і цяпер вернецца дамоў без «золата»? Гады ж ужо! І пятай Алімпіяды можа і не быць. Тым больш, што ніхто камандзе савецкіх рапірыстаў не прадказваў нават прызавога месца. Але на гэты раз нашы фехтавальшчыкі абверглі ўсе прагнозы. Выступілі проста выдатна. На вышэйшую прыступку п'едэстала гонару разам з мінчанінам падняліся У. Апцыауры, А. Ібрагімаў, І. Мамедаў, Б. Карэцкі.

Мы разлічвалі, што залатыя медалі заваююць савецкія гандбалісты. Так і здарылася. У фінальным матчы са спартсменамі Паўднёвай Карэі наша зборная атрымала перамогу з лікам 32:25. Асабліва ўдала тут згулялі мінчане Аляксандр Каршакевіч, Юрый Шаўцоў, Аляксандр Тучкін. Ды і Георгій Свірыдзенка з Канстанцінам Шараваравым зрабілі шмат для перамогі на Алімпіядзе.

А капітан каманды СССР па боксу Вячаслаў Яноўскі прынёс нашай зборнай апошні залаты медаль.

Вось так дзень за днём праходзіла (калі нашы чытачы атрымаюць гэты нумар газеты, Гульні ў Сеуле ўжо скончацца) Алімпіяда, поўная драматызму і крушэння спадзяванняў і прагнозаў.

Што тычыцца выступленняў каманд, то ўжо за некалькі дзён да сканчэння спаборніцтваў па-за канкурэнцыяй былі савецкія спартсмены. Яны заваявалі найбольшую колькасць узнагарод — больш ста. Значны ўклад у гэту скарбонку ўнеслі і беларускія спартсмены. Гераіняй Алімпіяды называюць у Сеуле пятнаццацігадовую гімнастку з Мінска Святлану Багінскую, якая заваявала дзве вышэйшыя ўзнагароды. Самым папулярным спартсменам сярод цяжкаатлетаў стаў Аляксандр Курловіч з Гродна. Гэты асілак у звышцяжкай вагавай катэгорыі перамог з выдатным вынікам—462,5 кілаграма.

Канчатковыя вынікі выступлення беларускіх спартсменаў на Гульнях у Сеуле мы падвядзём наступны раз.


**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**

**МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.**
Зак. № 1367